# ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

№8, ЛІСТАПАД 2012

ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


СОЛИДАРНОСТЬ

## В Гомеле БАЖ провела акцию в поддержку «ARCHE» и Андрея Почобута



5 ноября члены гомельского филиала общественной организации «Белорусская ассоциация журналистов» провели акцию в поддержку журнала «ARCHE-Пачатак» и коллеги Андрея Почобута, передает БелаПАН.

Напомним, у журнала «ARCHE-Пачатак» возникли проблемы: департамент финансовых расследований КГК ведет проверку хозяйственной деятельности издания, счет журнала заблокирован, и он не может издаваться. Ранее был изъят тираж журнала, а государственное телевидение обвинило издание в экстремизме.

В отношении гродненского журналиста Андрея Почобута во второй раз возбуждено уголовное дело за клевету.

Гомельские активисты БАЖ подготовили и подписали открытое обращение к Комитету госконтроля, в котором выражают тревогу ввиду возможности закрытия журнала «ARCHE-Пачатак» и решительный протест против расправы над ежемесячным независимым журналом на белорусском языке.

«Члены БАЖ подписали обращение к КГК в связи с тем, что оказывается давление на журнал не только в экономическом, но и политическом плане, о чем свидетельствуют репортажи по государственному телевидению.

Журнал могут лишить регистрации, и он пропадет с медийного поля Беларуси, что будет несомненной утратой для читателей, так как это единственный интеллектуальный ежемесячный журнал на белорусском языке — для белорусов и про белорусов», — прокомментировал председатель гомельского филиала БАЖ Анатолий Готовчиц.

Также члены БАЖ высказали протест против уголовного преследования Андрея Почобута.

naviny.by

## СМІ паведамляюць

**01.11.2012**
**gomelradio.by:** «Самотная зорка Венера» – сборник с таким названием был презентован гостям литературного салона «Встречи на Замковой» при Центральной городской библиотеке. Пятая по счёту книга из серии «Вера. Надежда. Любовь» вышла в свет при поддержке Министерства информации Беларуси. В сборник вошли повести и рассказы 29 авторов, среди них – четыре гомельских прозаика: Василий Ткачёв, Ева Дудорга, Раиса Дейкун, Елена Матвиенко. «Зорка Венера», воспетая Максимом Богдановичем, – символ любви и грусти. В центре каждого произведения, вошедшего в книгу, – история любви. Чаще всего – любви драматичной, с оттенком печали, и в этом авторы видят особый смысл. Для гостей салона в этот вечер звучали песни гомельского барда Ольги Терещенко, авторы книги общались с читателями. У многих сразу возникло желание прочесть сборник от начала и до конца».

**03.11.2012**
**gomelcivil.org:** «Гомельскія грамадскія актывісты 3 лістапада ўшанавалі памяць рэпрэсаваных. З гэтай нагоды спачатку наведалі пакутны крыж на 9-ым кіламетры Чарнігаўскай шашы, усталяваны тут на пачатку 90-х гадоў, калі на хвалі дэмакратызацыі стала вядома жудасная праўда сталінскага тэрору. Тут усклалі кветкі, запалілі свечкі. Затым удзельнікі Дзядоў, падзяліўшыся на групы, паехалі прыводзіць у парадак іншыя месцы памяці рэпрэсаваных - прыбіраць апалае лісце, аднаўляць і фарбаваць крыжы».

ПАМЯЦЬ

# У Гомелі прайшла прэзентацыя стужкі «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць»

У Гомелі прайшла прэзентацыя дакументальна-мастацкай стужкі Валерыя Мазынскага «Палута Бадунова. Успомніць і не забыць».

Пасля прагляду, па прапанове Ларысы Шчыраковай, якая выконвала ў сцэнах гістарычнай рэканструкцыі ролю Палуты Бадуновай, адбылося абмеркаванне фільма.

Удзельнікі дыскусіі спыніліся на гістарычных фактах, асаблівасцях працы ў архівах па пошуку матэр'ялаў пра Палуту Бадунову, а таксама аб мастацкіх якасцях стужкі, спалучэнні дакументальных і ролевых элементаў.



Ларыса Шчыракова адзначыла: «Працавалі над фільмам талакой і з вялікай цікавасцю. Удзельнічалі не прафесійныя акторы, а грамадскія актывісты, але вельмі добра ўваходзілі ў вобраз».

СПАДЧЫНА

# Трэба быць сваім*

З Андрэем Скіданам, які працуе ў Веткаўскім музеі народнай творчасці імя Ф. Р. Шклярава, мы знаёмы даўно. Неяк у размове сказала яму, што цікава было б сваімі вачыма пагледзець, як этнограф працуе з носьбітамі традыцыйнай беларускай культуры…І вось праз нейкі час Андрэй патэлефанаваў і прапанаваў паехаць з ім у вёску Рагі… “Рэгіён для даследванняў у нас абмежаваны, але ж этнічныя локусы не маюць адміністрацыйных межаў, — патлумачыў Андрэй. — Мы даследуем Добрушскі, Гомельскі, Буда-Кашалёўскі, Чачэрскі раёны і нават суседнюю Браншчыну. Што тычыцца Рагоў, мне даводзілася і раней там бываць. Цікава было б дазнацца, наколькі захавалася там культура абрада “Свяча”, яшчэ цікавіць мясцовая ткацкая традыцыя: ручнікоў з Рагоў нам яшчэ не даводзілася бачыць…”.

Мы дамовіліся сустрэцца раніцай на прыпынку грамадскага транспарту. Даехалі гарадскім аўтобусам да Урыцкага і пайшлі пешшу да вёскі Старая Беліца...

За размовай мы неўзабаве дайшлі да Старой Беліцы.

А вось і “заімшэлы крыж”.

“ Гэта Мікола, як абаронца вёскі, — тлумачыць Андрэй, пакуль я раблю здымкі. — Вось што патрэбна зафатаграфаваць, дык гэта царкву. Яна зрублена яшчэ ў XVIII стагоддзі. Гэта самая старая царква ў Гомельскай епархіі. Традыцыйны драўляны храм з трыма вярхамі. Такіх многа дзе было раней, але захаваўся толькі адзін”.

Час быў ранні, і царква яшчэ была закрытая. Палюбаваўшыся на яе, мы пайшлі далей…

Высветлілася, што настольнымі кнігамі для этнографа з’яўляюцца карты. Асабліва тапаграфічныя, імі ён часцей за ўсё карыстаецца...

Па дарозе Андрэй распавёў пра тое, што адчувае існаванне тайны Зямлі. Усё, што на ёй нарадзілася, вырасла, стварылася, адыйшло, усё, чым жыў наш край, лічыць ён, мае сваю таямніцу адыходу і праяўлення:

“Часта, калі жанчына спявае — узгадае песню і запяе — гэта падобна да таго, як з куфра дастаюцца і разгортваюцца старыя ручнікі. Быццам з табой раптам пачынае

>>> 3

2<<<



гаварыць традыцыя. Яна як бы праяўляецца. Ручнік — гэта матэрылізаваная рэч, а ёсць і нематэрылізаваныя. Яны адыйшлі ўжо стагоддзямі і што ад іх засталося? Шмат містычнага. І вось гэта тайна Зямлі, якую нам не дадзена ўжо разгадаць, можа адкрывацца для нас праз некаторыя рэчы. І калі ты ідзеш па такіх вось палях, ты бліжэй да гэтай таямніцы, чым калі сядзіш за кампом ці едзеш у тралейбусе”.

Ну вось і першы пасёлак на нашым шляху — пад зусім не старадаўняй назвай Южны.

Нягледзячы на назву, менавіта тут мы атрымалі свой першы “трафей” — тканы ручнік. Яго падаравала музею Улляна Піліпаўна Грышаева. “Яму ўжо больш за сто гадоў, — сказала яна. — Гэта бабулі маёй — Кацярыны Ягораўны Шапавалавай”.

Вось так, гаспадара ўжо няма, а рэч яшчэ жыве.

“ Ткацкая традыцыя — гэта моцны духоўны імпульс унутранай патрабаванасці, — гаворыць Андрэй. — Іншымі словамі, духоўная культура была вельмі высокая яшчэ да сярэдзіны XX стагоддзя, і яна патрабавала матэрыяльных увасабленняў. Гэта тычыцца тых жа неглюбцаў. Іх знакамітыя ручнікі — прадукт, калі можна так сказаць, унікальнай культуры мастацкай, рытуальнай. Ткацтва — адзін з традыцыйна вызначаных спосабаў маніфестацыі рытуальнай культуры. І калі ў Неглюбцы гэтая традыцыя жыве і дагэтуль, то ў іншых мясцінах яна стала згасаць у перыяд калектывізацыі, потым у вайну і пасля вайны ў перыяд індустрыялізацыі. Гэта вельмі драматычны злом, які паламаў хрыбет народным традыцыям”.

Мы зайшлі ў госці і ў другія хаты, гаспадары якіх ветліва нас прымалі ды адказвалі на ўсе пытанні этнографа. Хтосьці частаваў духмянай антонаўкай з свайго саду, хтосьці запрашаў паабедаць разам…

Мы дазналіся, што ў 20-х гадах мінулага стагоддзя ў Рагах быў пажар, пасля якога вяскоўцы пачалі будаваць дамы непадалёк, так узніклі новыя пасёлкі, такія як гэты Нехацееўка ды іншыя. Бабулі падказалі, як бліжэй дайсці да Рагоў і ў якой хаце нам могуць лепей распавесці пра абрад “Свяча”…

Ужо ў Рагах я здагадалася, што Андрэй Скідан выбраў гэтую вёску мэтава. Ёсць тут дом, дзе вось ужо 30 год стаіць тая самая “Свяча” (насамрэч так завецца шанаваная васковая ікона), якую раней кожны год неслі па вёсцы ў ківоце, каб здзейсніць абрад і перадаць “Свячу” ў другую хату.

Патрабаванні былі вельмі строгія: напрыклад, святы абраз нельга было ставіць побач з тэлевізарам, гаспадарам не дазвалялася выпіваць,



>>>4

3 <<<

мацюкацца. Па зразумелых прычынах з кожным годам жадаючых узяць да сябе "Свячу" станавілася ўсё менш і менш. Але ж гаспадары хаты, у якой яна зараз знаходзіцца, дагэтуль шануюць ды падтрымліваюць старадаўнія традыцыі.

Я назірала за тым, як працуе Андрэй. У ягоных адносінах да вяскоўцаў адчуваецца павага. Прычым праявы гэтага можна бачыць літаральна ва ўсім: як заходзіць у хату, як размаўляе, як развітваецца…

"Галоўнае, сабраць як мага больш інфармацыі, таму што праз 10 — 15 год гэта ўжо будзе зрабіць немагчыма. Зыйдуць нават і тыя носьбіты традыцый, якія ўжо сёння мала чаго памятаюць, — разважае Андрэй. — Супрацоўнікі нашага музея, якія працавалі ў ім у 90-я гады, кажуць, што мінуў той час, калі з людзьмі можна было праводзіць цэлыя дні ў размовах аб народнай культуры. Зараз звесткі аб даўніне ўжо вельмі абрывачныя, няцэльныя, фрагментарныя. А гадоў праз дзесяць мы не будзем мець і такіх успамінаў. Так што трэба спяшацца".

Мне не раз даводзілася чуць, што ў сферу дзейнасці музея не ўваходзіць навуковая дзейнасць, што гэта не навукова-даследчы інстытут. І гэта сапраўды так. Але ж з самага пачатку свайго існавання Веткаўскі музей стаў своеасаблівым даследчым цэнтрам, творчай лабараторыяй. Узначальвае гэтую культурную ўстанову асоба таксама творчая — Галіна Нячаева, пераемніца заснавальніка Веткаўскага музея Фёдара Рыгоравіча Шклярава.

"Мы не аматары. У нас нават ёсць майстэрня па рэканструкцыі старадаўніх рэчаў і рэстаўрацыі. Да нас не трапляюць выпадковыя людзі, — пацвердзіў маю думку Андрэй Скідан. — Таму музей нельга ўявіць сабе па-за межамі збіральніцкай, экспедыцыйнай і навукова-аналітычнай дзейнасці".

Засталося дадаць, што кожны этнограф мае свой прыярытэтны накірунак дзейнасці. У прыватнасці, Андрэй Скідан цікавіцца больш за ўсё царкоўнай этнаграфіяй, традыцыйнай драўлянай архітэктурай ды разьбяным дэкорам…

Андрэй кажа, што багаслоўская адукацыя дапамагае яму ў даследванні народнай культуры, у якой фрагментарна прабіваецца Божае адкравенне, бо "народная культура інтуітыўна шукае Бога ў розных праявах і знаходзіць яго".

"Адрозненне, бадай, у тым, што народная культура не мае вопыту пазнання, якім валодае царква, — развівае сваю думку Андрэй. — Вельмі часта, калі этнографы, не маючы духоўнага вопыту, пачынаюць даследваць нешта ў гэтай галіне і потым гэта папулярызаваць, адбываюцца, на мой погляд, страшныя з'явы. Калі даследваннямі займаецца чалавек, які спрактыкаваны ў этнаграфіі, але недасведчаны ў тэалогіі, ён можа надаць нейкай рытуальнай традыцыі чыста ўтылітарны змест. Напрыклад, ён піша: сёння Фрол і Лаўр — у народзе ў гэты дзень рабілі то-та і тота. Вось прыклад чыстага механізму. Гэта той самы выпадак, калі даследчык піша толькі пра вынік, а гэта значыць, што ён ужывае традыцыю як механізм. Гэта вельмі прымітыўна.

Ну вось і яшчэ адна прафесійная якасць, адзначыла я. Вялікая адказнасць перад усімі намі і тымі, хто будзе жыць пасля нас.

**Наталья ПРИГОДИЧ**
gp.by, фота аўтара

**Друкуецца са скарачэннямі*

# Рэчыцкі замак у 3D анімацыі

Рэчыцкі замак быў драўляны і да нашых дзён не захаваўся. Але ж для гісторыкаў з'явілася магчымасць стварыць 3D мадэль замка з дапамогай старых гравюр з выявамі Рэчыцы часоў казацка-сялянскай вайны.

Падчас вайны 1649-1651 гг. у Рэчыцы знаходзіўся асноўны лагер войска Вялікага Княства Літоўскага. З Рэчыцы польны гетман літоўскі Януш Радзівіл рушыў з войскам у Лоеў (у 1649 і 1651 гг.) — горад, у якім адбыліся буйныя бітвы з казакамі. Падчас усіх гэтых падзей інжынеры-мастакі пры двары Януша Радзівіла — Вэстэрфэльт і Эйгірд працавалі над стварэннем гравюраў з выявамі Рэчыцы.



Мікола Волкаў — гісторык, спецыяліст па абарончай архітэктуры Беларусі, змог выявіць у архівах раней невядомыя гравюры з выявамі Рэчыцкага замка. Таксама ім былі зроблены якасныя копіі ўсіх вядомых яму выяў Рэчыцы сярэдзіны XVII ст. Дзякуючы гравюрам, гісторык, а таксама графічны дызайнер Яўген Кавалеўскі стварыў 3D рэканструкцыю Рэчыцкага замка. Праца вялася пры падтрымцы рэчыцкага аддзела культуры, а таксама даследчыцы Валянціны Лебедзевай.

>>> 5

4 <<<

Стварэнне 3D рэканструкцыі замка прымеркавана да 800-годдзя горада Рэчыца, якое будзе адзначацца ў 2013 г. У будучыні мясцовы краязнаўчы музей зможа прадэманстраваць відэаролік з выявамі замка для кожнага наведвальніка. Трэба адзначыць, што ні ў водным музеі Беларусі пакуль не паказваюцца ролікі 3D рэканструкцый, для гледачоў звычайна дэманструюцца толькі малюнкі з аналагічных ролікаў.



Відэаролік 3D рэканструкцыі рэчыцкага замка:

Прэзентацыя Яўгенам Кавалеўскім і Валянцінай Лебедзевай 3D рэканструкцыі рэчыцкага замка ў Рэчыцы сярод рэчычан і вядомых даследчыкаў Беларусі.

**Марыя БУЛАВІНСКАЯ**
kli4nik.info

# У Гомелі вучылі акторскаму майстэрству



У Гомельскім Гарадскім Моладзевым тэатры 10 лістапада адбыўся трэнінг па акцёрскім майстэрстве, які праводзіўся ў межах тэатральнага руху «ARTproba».

Майстар-клас праводзіў дырэктар і мастацкі кіраўнік Моладзевага тэатра Юры Вута. Трэнінг складаўся з тэарэтычнай часткі ў форме двухбаковай сувязі і практычнай часткі, у якой змаглі ўзяць удзел самыя смелыя з тых, хто прыйшоў. Астатнія ж мелі магчымасць пабыць гледачамі.

Агулам на мерапрыемстве прысутнічала блізу 30 чалавек, сярод якіх былі як акторы-аматары, так і проста цікаўныя гамельчукі.

Мерапрыемства апынулася вельмі карысным, пра што сведчаць меркаванні ўдзельнікаў у кантакце:

Дзяніс Клясуноў :

“Дзякуй за майстар-клас арганізатару тэатральнага руху «ARTproba» Лагута Валерыі і самаму эксперту Вута Юрыю ! У цёплай і дружнай атмасферы майстар-клас праляцеў як секунда! Усё было класна, пісьменна, карысна і па сутнасці! Чакаем сустрэчы з вамі яшчэ і яшчэ! Як сказаў на майстар-класе Юры Леанідавіч, “душа важыць 7 грам, але пасля самога майстар-класа ў душы засталося так шмат станоўчых эмоцый, што я з упэўненасцю магу сказаць: мая душа, пасля такога выдатнага мерапрыемства, стала цяжэй яшчэ на 1 грам.”

Сяргей Чырлін:

“Цікавага было шмат: пачынаючы з колькасці людзей, што прыйшлі (шчыра кажучы думаў, што прыйдзе значна меней), і заканчваючы самім напаўненнем класа. Я прыйшоў, таму што сам займаюся ў студыі тэатра і танца «LIVEНЬ» і прапусціць такую падзею проста не мог. І ведаеце, я не расчараваўся! Больш за ўсё мне спадабалася практыкаванне, у якім трэба было вельмі хутка ўзгадваць карцінкі яркіх момантаў жыцця з розных часавых адрэзкаў.”

**Марына ВІКТАРАЎНА**

# СССР у рарытэтах

У Касцюкоўцы з’явіўся ўласны Gruto Parkos. Праўда, на адзін дзень. У ДК “Гомельшкло” 7 лістапада праходзіла выстава “Назад у СССР”. Экспанаты для яе збіралі ўсёй Касцюкоўкай. Нават з Гомеля даехаў калекцыянер рэтрагадзіннікаў. Ён прадставіў для выставы гадзіннікі і фотаздымач “Чайка”.





Экспазіцыя была выкананая не без гумару. Напрыклад, у друкарцы быў устаўленая папера з надпісам “Ананімка”. “Гэта таксама бакі нашага жыцця. Чаго там хаваць”, -- казалі арганізатары выставы.

Экспазіцыя складалася з прадметаў жыцця савецкага чалавека. Патэфон ваенных часоў, савецкі відэамагнітафон маркі “Электроніка”, арыфмометр “Фелікс”, драўляныя лічыльнікі, фільмаскопы для паказу дыяфільмаў – усё гэта можна было ўбачыць на выставе, якая называлася “Назад у СССР”.

Выстава адбывалася ўпершыню. Але арганізатары спадзяюцца праводзіць і пашыраць экспазіцыю ў далейшым.

**Алеся ДЗЕРАВЯГА**

## Як студэнты Гомеля адзначалі сваё свята разам з “Зимним футболом” і Leibonikам

У цяперашніх, былых, а таксама будучых студэнтаў Гомеля ў гэтую суботу была магчымасьць даведацца пра гісторыю Дня Студэнта, а таксама адсьвяткаваць яго ў кампаніі вядомага менскага музыкі Сяргея Башлыкевіча (Leibonik) і гомельскага зусім юнага гурта “Зимний футбол”. І гэтай магчымасцю скарысталіся каля 25 маладзёнаў.



Распачаў мерапрыемства Сяргей Башлыкевіч: ён павітаўся з прысутнымі і адразу ж засьпяваў, бо праз невялічкія спазненьні некаторых слухачоў пачатак мерапрыемства адклаўся амаль што на 20 хвілін. Ад вялікай колькасці прысутных людзей выканаўца, падавалася, пачаў крышачку нэрвавацца: на адной з першых песьняў у Сяргея парвалася струна, таму на час “аварыі” праграму давялося

>>> 7

6 <<<



працягваць хлопцам Пятру і Віктару з "Зімовага футболу".

- У нас пакуль што крыху тугавата са сваімі песьнямі, таму мы выканаем некалькі кавэраў, – сціпла сказаў Віктар.

І панеслася! Гучалі кавэры на песьні вядомых ў нефармальных колах Вені Д'ркіна, Міхаіла Башакова і іншых вечна маладых і таленавітых. Нехта са слухачоў пацікавіўся:

- А распавядзіце, калі ласка, што-небудзь пра сябе.

- Мы завемся "Зимний футбол", – адказаў Віктар. - Граем звычайна ў адным з гомельскіх бараў альбо пераходаў. Пазнаёміліся мы з Пятром у кантакце і пачалі граць разам. Так і ўтварыўся гурт.

Праз некалькі песьняў гітару "пераняў" Сяргей. Апынулася, што запасных струнаў у хлопца не было, а наладзіць тую, што парвалася, не атрымалася. Сяржук спяваў свае песьні з "Ідыёцкага альбому", як ён сам яго называе, і распавядаў розныя гісторыі да гэтых песень:

- Паэты – людзі ў пэўным сэньсе сьвятыя, але яны ўсё ж такі людзі. І піярыць іх можна па-рознаму, – сказаў Сяргей і засьпяваў. - О, Купала, самы зэбэсты, каго зямля ў ліпні нараджала!

І па-мойму гэтая файная песенька не пакінула нікога абыякавымі! А Сяржук усё сьпяваў і сьпяваў пра крыж Ярылы, пра касінэраў, пра воблачка ў форме пламбіру…

- Трэба пакрысе скончаць. Апошняя песьня, – стомлена, але весела вымавіў Сяргей.

Хлопец прасьпяваў шчэ адну песьню, а потым падзякваў усім, хто прыйшоў і прапанаваў разам пасядзець і паразмаўляць за гарбатай. Некалькі самых сціплых альбо занятых маладзёнаў спешна сышлі дадому, а самыя трывалыя засталіся і папрасілі Сяргея выканаць яшчэ што-небудзь на біс. Абстаноўка была ўжо, напэўна, больш свойская і прысутныя пачалі падпяваць выканаўцу, які граў на гітары без аднае струны і на губным гармоніку адначасова.

Пасля мерапрыемства мне ўдалося трошкі паразмаўляць з Сяржуком:

Я: Сяргей, распавядзі, калі ласка як ты пачынаў і адкрый сакрэт, што ўсё ж такі такое "Leibonik", бо ніякай інфармацыі пра гэта ў Інтэрнэце мне знайсьці не ўдалося.

Сяргей: У 11 класе я навучыўся граць на гітары і да таго часу напісаў шмат вершаў, публікаваўся ў розных газетах, то бок у мяне быў літаратурны матэр'ял. І я вырашыў сьпяваць: спачатку гэта былі больш жартоўныя песьні і рабіў я гэта больш для сябе, бо дрэнна граў і дрэнна сьпяваў. Потым крыху сьпяваў і граў у складзе гурта, які ў выніку "загнуўся" пасля некалькіх гастроляў. А я застаўся хлопцам, які выступаў ва ўніверсітэце на розных мерапрыемствах і ездзіў на студэнцкія фестывалі. Потым яшчэ выступаў дуэтам разам з Алегам Крупенічам. А апошнія два гады я выступаю ў больш нефармальнай абстаноўцы: кватэрнікі, творчыя сустрэчы…

"Leibonik" – гэта нікнэйм, які ўзнік яшчэ ў дзіцячыя часы. Мне вельмі падабаўся раман Уолтэра Міллера "Святой Лейбовиц и Дикая Лошадь" і ў кампутарным клубе я абазваўся "Лейбовіцам", потым гэтую мянушку сябры спрацілі да памяншальнай формы "Лейбонік". Я нічога не стаў мяняць і запісы свае падпісваю менавіта так.

Я: А як ты прыйшоў да беларускай мовы і беларускіх тэкстаў? Што на цябе паўплывала?

Сяргей: Я першапачаткова імкнуўся пісаць песьні і па-расейску, і па-беларуску. А ў апошнія гады пачаў больш сур'ёзна падыходзіць да рэпертуару і ставіцца да выбару тэмы. Зараз я імкнуся развіваць гістарычныя і калягістарычныя тэмы і адсюль вынікаюць большасьць беларускіх песняў.

Я: У цябе ёсьць сфармаваныя альбомы?

Сяргей: Зараз ёсць толькі канцэртна-кватэрнікавыя і хатнія запісы. Якасьць некаторых магчыма ня вельмі добрая, але гэтыя запісы даюць уяўленне пра песні і іх

>>> 8

7 <<<



можна слухаць. Праўда, апошнім часам я імкнуся запісвацца больш якасна, бо трошкі навучыўся гэта рабіць і мне дапамагаюць. У бліжэйшы час планую дазапісваць свой канцэптуальны беларускамоўны цыкл і апублікаваць у Інтэрнэце, каб гэта быў ужо цэльны праект і каб гэта можна было ўспрымаць цэльна.

Я: Скажы, а чым у тваім жыцьці ёсьць музыка?

Сяргей: Ня ведаю на жаль альбо на шчасце, але музыка не з'яўляецца для мяне асноўным заняткам. Я працую інжынер-праграмістам, вучуся ў магістратуры,а таксама да нядаўняга часу я выкладаў ва ўніверсітэце і збіраюся працягнуць выкладаньне. Музыка – гэта хутчэй хобі. Я захапляюся гульнёй "Што? Дзе? Калі?" і музыка займае ў маім жыцьці прыкладна такое ж месца, як і гэтая гульня. Мне падабаецца самому сьпяваць, падабаецца, калі мяне слухаюць і падабаецца, калі людзям падабаецца тое, што я сьпяваю.

Я: Распавядзі пра свае ўражаньні пра выступ у Гомелі.

Сяргей: У Гомелі атрымалася клёва. У першую чаргу мне было прыемна, што прыйшло шмат людзей, якіх я ведаю і якія слухаюць мяне. Яшчэ больш прыемна было ад таго, што прыйшло шмат людзей, якія слухалі мяне ўпершыню. Мне вельмі спадабалася.

Я таксама засталася пад моцным уражаньнем ад вечара і атрымала зарад станоўчых эмоцыяў і энэргіі на ўвесь будучы тыдзень. Вельмі хацелася б, каб пачасцей наш гарадок наведвалі такія цудоўныя людзі і музыкі як Сяргей.

**Марына ВІКТАРАЎНА**

# СМІ паведамляюць

**01.11.2012**
**arw.gov.by:** «В рамках польско-белорусского проекта «Роль системы образования в профилактике ВИЧ/СПИД» в средней школе № 8 были проведены профелактические мероприятия ВИЧ инфекции среди учащихся 10 - 11 классов. В течение нескольких дней старшеклассники участвовали в тренинге «Школа здоровья: ВИЧ». Не первый год студенты-волонтеры 6 курса УО «Гомельский государственный медицинский университет» проводят подобный тренинг по системе «Равный обучает равного», что позволяет его участнику открыто задать и обсудить интересующий вопрос. В ходе работы студенты раздали информационные бюллетени участникам тренинга, а также продемонстрировали видеоролик о профилактике ВИЧ инфекции. Встреча окончилась анкетированием, в котором учащиеся указали: что нового и полезного узнал каждый для себя».

**02.11.2012**
**gomelradio.by:** «Волонтёры Белорусского общества Красного Креста призывали гомельчан «подарить частичку сердца пожилому человеку». Акцию под таким названием в рамках республиканской кампании «Забота» провели на территории трёх торговых объектов Гомеля. Как показывает практика, гомельчане в подобных акциях принимают активное участие. На этот раз жители города так же не остались равнодушными. Они жертвовали деньги на подарки для пенсионеров и оставляли теплые пожелания на открытках. Собранные подарки и пожелания волонтёры Красного Креста передадут пожилым людям, проживающим в доме-интернате «Шубино» Ветковского района во время проведения концерта - 8 ноября».





ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

**Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ**
**А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.**
**Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.**